наша СВАБОДА

№35(262) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДУ

29 САКАВІКА 2002 году ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 2100-253, факс 2100-254

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ

# Судны тыдзень пасля Дня Волі

*Пяты дзень ідуць суды над удзельнікамі Дня Волі 24 сакавіка.*

Нагадаем, што святкаванні, якія распачаліся ў Мінску ў скверы Янкі Купалы, завяршыліся масавымі арыштамі на скрыжаванні праспекту Францыска Скарыны з вуліцай Варвашэні: па афіцыйных звестках, затрымалі 65 чалавек. У панядзелак 25 сакавіка над удзельнікамі Дня Волі распачаліся суды.

25 сакавіка Цэнтральны суд Мінску вынес першыя прысуды. Два дэманстранты – Віктар Дашкевіч і Віктар Кавешнікаў – атрымалі па 10 сутак адміністрацыйнага арышту. Яшчэ пяцёра ўдзельнікаў акцыі – Аляксей Смольскі, Дзмітрый Таруліс, Валеры Герасімаў, Лявон Садоўскі, Пятро Русаў -- аштрафаваныя кожны на 20 мінімальных заробкаў за ўдзел у несанкцыяваным шэсці. Гэта па 200 тысячаў рублёў на кожнага. Шэсць чалавек абышліся папярэджаннямі – Сяргей Трыфанаў, Андрэй Ляховіч, Аляксандр Шавеленка, Мікола Лавіцкі, Андрэй Талстыка, Сяргей Бяздзенежны.

26 сакавіка суддзя Цэнтральнага суду Вайцяховіч прызнала лідэра незарэгістраванай арганізацыі Малады Фронт Паўла Севярынца вінаватым у арганізацыі несанкцыяванага шэсця і прысудзіла яго да 15 сутак адміністрацыйнага арышту. Пасля вынясення прысуду яго з залі суду адправілі ў спецпрыёмнік-размеркавальнік МУС.

28 сакавіка ў Цэнтральным судзе разбіралі справы сябра Сойму БНФ «Адраджэнне» Вячаслава Сіўчыка, Юрася Пальчэўскага і Кірылы Папкова.

29 сакавіка пройдзе суд над Эдвардам Зайкоўскім. 1 красавіка будуць судзіць Уладзіслава Ігнатовіча, 2-га – Зміцера Бандарэнку, на 3 красавіка перанесены працэс над Лявонам Ачапоўскім.

Гродзенская Феміда таксама не дрэмле. Усе судовыя працэсы вядуцца ў судзе Ленінскага раёну гораду суддзём Дзмітрыем Дземчанкам. Восем чалавек ужо асуджаныя. 26 сакавіка папярэджанні атрымалі Міхаіл Патрэба ды Раман Рамашка. Вадзім Саранчукоў наступным днём за непадпарадкаванне міліцыі ды арганізацыю несанкцыяванай акцыі атрымаў 10 сутак арышту, аднак судзілі яго завочна. Штрафы мусяць выплаціць Мікола Лемяноўскі – 1 мільён 500 тысячаў беларускіх рублёў, Максім Лебедзеў – 200 тысячаў. 28 сакавіка судзілі старшыню Гродзенскага абласнога аддзялення БНФ Сяргея Мальчыка і Святлану Нех.

**Рыгор БУЯН**




# Віншуем з Вялікаднем!


Фота Ул.ШЛАПАКА

# Беларусь просіць мільёны ў Расіі

## *Інакш Саюзу – не бываць*

*Як заявіў учора на прэс-канферэнцыі міністр замежных справаў Міхаіл Хвастоў, ён перакананы, што 12 красавіка на паседжанні Найвышэйшага дзяржаўнага савету гэтак званай Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі будуць падпісаныя ўсе дакументы, датычныя агульных эканамічных умоваў для абедзвюх краінаў.*

Міністр вельмі ўмоўна параўнаў новае дзяржаўнае ўтварэнне з саюзам трох еўрапейскіх дзяржаваў – Бенілюксам (Бельгія, Нідэрланды і Люксембург). Па ягоных словах, амаль усе эканамічныя пытанні ўжо ўзгодненыя з Расіяй – апроч механізму спагнання ўскосных падаткаў, то бок падатку на дабаўленую вартасць.

Як вядома, расійскі бок настойвае на тым, каб беларускія тавары, якія прадаюцца ў Расіі, абкладаліся падаткам на іхнай тэрыторыі. Беларусь жа сама хоча браць падаткі з кошту тавараў, што прадаюцца ў суседняй краіне.

Па словах М.Хвастова, Беларусь патрабуе ад Расіі штогадовых кампенсацыяў. Агульны іхні памер, які раней ацэньваўся ў 185 мільёнаў даляраў, цяпер складае, па словах міністра замежных справаў, 150-180 мільёнаў даляраў. Толькі такім чынам атрымаецца запоўніць «дзірку», якая ўтворыцца ў беларускім бюджэце пры пераходзе на расійскія ўмовы спагнання ўскосных падаткаў. Як толькі гэтае пытанне будзе вырашанае, апошнія перашкоды, каб перайсці на агульныя эканамічныя ўмовы, будуць знятыя. Як кажа міністр замежных справаў, Беларусь спадзяецца, што пачне атрымліваць кампенсацыю ад Расіі ўжо з гэтага году.

Агульныя эканамічныя ўмовы для суб'ектаў гаспадарання дзвюх краінаў – гэта, з аднаго боку, адмена ўсіх ільготаў, якія сёння існуюць для пэўнай колькасці беларускіх прадпрыемстваў. Адпаведны праект прэзідэнцкага ўказу ўжо падрыхтаваны. Але Аляксандр Лукашэнка не спяшаецца яго падпісваць – ён чакае расійскага адказу на пытанне пра кампенсацыі.

З іншага боку, Беларусь тады будзе атрымліваць расійскія энерганосьбіты – газ і электраэнергію – па тых самых коштах, па якіх іх маюць Смаленская ці Бранская вобласці Расіі. Не сакрэт, што тавары беларускай вытворчасці – вельмі энергаёмістыя. То бок значную частку ў іхніх коштах складаюць выдаткі на электрычнасць і газ.

*Заканчэнне на стар.3*

# «Маршруткі» сутыкнуліся ў лоб

*У сераду ў Мінску адбылося надзвычайнае здарэнне: дзве маршрутныя таксоўкі, што перавозілі пасажыраў па маршруце «Вакзал–Малінаўка-8–Вакзал», сутыкнуліся «лоб у лоб». У выніку пацярпелі не толькі абодва кіроўцы, але і ўсе пасажыры.*

Прэс-служба міністэрства па надзвычайных сітуацыях паведаміла, што сутыкненне адбылося на вуліцы Чыгуначнай, калі адзін з кіроўцаў «маршруткі» вырашыў аб'ехаць транспартны паток наперадзе па паласе сустрэчнага руху. Гэта было каля 9 гадзінаў вечара.

Вынікі сутыкнення былі даволі сур'ёзныя. Абодвух кіроўцаў заціснула металічнымі канструкцыямі кузаваў «маршрутак». У аднаго з іх медыкі знайшлі пераломы нагі, у другога – пераломы рэбраў, а да таго ж ягоны твар увесь пасекла аскепкамі ветравога шкла. Усе сем пасажыраў абедзвюх таксовак былі дастаўленыя ў мінскія шпіталі з траўмамі рознай ступені цяжкасці.



Пасля гэтага інцыдэнту мінскія гарадскія ўлады проста мусяць перагледзець умовы дзейнасці маршрутных таксовак сталіцы – з увядзеннем адмысловай сертыфікацыі кіроўцаў, рэгулярнай праверкай тэхнічнага стану кожнага мікрааўтобусу і гэтак далей. Дарэчы, суседняя Расія, якая нядаўна вельмі шчыльна сутыкнулася з праблемай павышанай аварыйнасці «маршрутак», гэтую праблему вырашыла радыкальна. Напрыклад, забараніла выкарыстоўваць найбольш небяспечныя мадыфікацыі мікрааўтобусаў у якасці грамадскіх таксовак. На мінскіх жа вуліцах якіх толькі «маршрутак» не пабачыш!

**Ірына СТАРЦАВА**

Падпісны індэкс НАШАЙ СВАБОДЫ 63478

ВЕСТКІ


Фота Ул.ШЛАПАКА

## У суботу – талака

30 сакавіка а 13-й гадзіне Кансерватыўна-хрысціянская партыя БНФ праводзіць талаку ў Курапатах. Актывісты партыі плануюць устанавіць крыжы на магілах ахвяраў рэпрэсій, а таксама добраўпарадкаваць тэрыторыю ўрочышча. Талака пройдзе напярэдадні падпісання 1 красавіка ў Мінску «Канцэпцыі мемарыялу ахвяраў палітычных рэпрэсіяў «Курапаты».

## Блытаніна з «мінімалкай»

Падзел паняцця «мінімальная заработная плата» на «базавую велічыню» і «ўласна мінімальную заработную плату» спарадзіў блытаніну. 27.03.2002 г. Лукашэнка падпісаў указ № 158, у якім даводзіцца, што памеры крадзяжоў (шкоды) і штрафных санкцыяў у выглядзе пэўнай колькасці мінімальных заработных плат, зафіксаваных Крымінальным кодэксам, вызначаюцца зыходзячы з памеру мінімальнай заработнай платы, а не базавай велічыні. З 1 сакавіка мінімальная заработная плата ў краіне складае 17 тысяч рублёў, а базавая велічыня – 10 тысяч рублёў.

## Турызм са стрэльбамі

Усяго 2,5 тысячы замежных турыстаў знайшлі магчымасць наведаць базы адпачынку кіраўніцтва справамі прэзідэнта. Замежных гасцей больш вабіць флора і фауна «беларускай Амазонкі» Прыпяці, а таксама паляванне на розных звяроў і птушак. Найбольшую цікавасць да гэтага віду адпачынку выказваюць турысты з Вялікабрытаніі, Францыі, Нідэрландаў і Германіі.

## 50 тысяч даляраў «фальшыўкі»

У Оршы затрымана група з шасці чалавек, якія абвінавачваюцца ў вырабе, захоўванні і збыце падробных грошай. Падчас аперацыі, якую правялі сумесна Упраўленне КДБ па Віцебскай вобласці, спецыяльнае падраздзяленне «Альфа» і Аршанскі аддзел фінансавых расследаванняў, у абвінавачаных канфіскавана фальшывак на суму звыш 50 тысяч даляраў.

## На кожнага па пісталету

Супрацоўнікі ўпраўлення па Брэсцкай вобласці Камітэту па барацьбе з аргзлачыннасцю і карупцыяй сумесна са спецпадраздзяленнем «Алмаз» затрымалі ў Брэсце двух армян, дагестанца і азербайджанца, якія спрабавалі прадаць чатыры новыя пісталеты Макарава з прыстасаваннем для бясшумнай стральбы. Кожны пісталет зламыснікі ацанілі ў 550 даляраў ЗША. На кватэры ў Брэсце, дзе жылі двое з затрыманых, апрача таго, былі канфіскаваны 9-міліметровы пісталет «Вальтэр» і яшчэ адзін пісталет замежнай вытворчасці.

НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.gismeteo.ru

Курс наяўнага даляра на «чорным рынку» 1740




# Арышт і штрафы

Пяць удзельнікаў святкавання Дня Волі ў Гродне ў сераду і чацвер атрымалі прысуды.

Кіраўнік гарадской арганізацыі Маладога Фронту Вадзім Саранчукоў пакараны 10 суткамі арышту. Адны суткі ён ужо адбыў. Міліцыя затрымала яго 24 сакавіка, а выпусціла 25-га.

Самы вялікі штраф – 1,5 мільёна рублёў – суддзя Дземчанка прысудзіў М.Лемяноўскаму. Апошні пасля ўскладання кветак да мемарыяльнай шыльды паўстанцам Т.Касцюшкі сказаў некалькі словаў да прысутных. На 500 тысяч рублёў аштрафаваная С.Нех з Маладой Грамады. Кіраўнік мясцовай арганізацыі БСДГ В.Сазонаў – на 200 тысяч. Беспрацоўны М.Лебедзеў папярэджаны судом.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# Аспірантка просіць палітычнага прытулку

27 сакавіка ў судзе гораду Рэчыцы (Гомельская вобласць) павінен быў прадоўжыцца суд над актывісткай Аб'яднанай грамадзянскай партыі, аспіранткай Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Натальляй Брэль. Яна абвінавачваецца ў паклёпе на прэзідэнта і знявазе яго асобы (частка 1 артыкулу 367 і частка 1 артыкулу 368 Крымінальнага кодэксу РБ).

Напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў Наталля Брэль перадала ў Рэчыцкі гарвыканкам пасылку для Аляксандра Лукашэнкі. Пасылку распакавалі. У ёй аказаліся мыла, кавалак вяроўкі і іншыя прадметы, якія потым былі расцэнены пракуратурай як зневажальныя для Аляксандра Лукашэнкі. Наталлю Брэль затрымалі і на некалькі сутак змясцілі ў следчы ізалятар, аднак потым адпусцілі пад падпіску аб нявыездзе. 27 сакавіка яна зноў не з'явілася ў суд і практычна была аб'яўлена ў вышук.

Як вынікае з паведамлення прэс-службы Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Наталля Брэль пакінула тэрыторыю Беларусі і некалькі дзён таму папрасіла палітычнага прытулку ў Бельгіі.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

# Змены ў страхаванні аўтатранспарту

Прэс-служба прэзідэнта паведамляе пра новы ўказ кіраўніка дзяржавы аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у дзеючы ад 19.02.1999 г. «Аб парадку і ўмовах правядзення абавязковага страхавання грамадзянскай адказнасці ўладальнікаў транспартных сродкаў».

Цяпер рэгламентуецца абавязак страхоўшчыка (Беларускага бюро па транспартным страхаванні) рабіць пераразлік памеру шкоды, прычыненай пацярпеламу, у выпадках неажыццяўлення выплаты страхавога пакрыцця на працягу двух месяцаў з моманту ДТЗ;

– распаўсюджванне дзеяння дамовы страхавання на ўсіх уладальнікаў (карыстальнікаў) транспартнага сродку, незалежна ад таго, ці названы яны ў гэтай дамове, што выключае неабходнасць унясення ў яго змяненняў пры любым пашырэнні кола ўладальнікаў (карыстальнікаў) транспартнага сродку;

– абавязак страхоўшчыка пакрыць шкоду, прычыненую пацярпеламу асобай, якая не мае законных падстаў на права кіравання транспартным сродкам, калі ўладальнік гэтага транспартнага сродку заключыў адпаведную дамову страхавання;

– распаўсюджванне 50-працэнтнай зніжкі пры выплаце адпаведных страхавых узносаў на грамадзян, што атрымалі транспартныя сродкі праз органы сацабароны на льготных умовах.

У сувязі з меркаваным уступленнем Беларускага бюро па транспартным страхаванні ў еўрапейскую сістэму «Зялёная карта» ўказ усталёўвае асаблівасці рэгулявання адносінаў з удзелам нерэзідэнтаў Рэспублікі Беларусь, што маюць сертыфікат «Зялёная карта». Як адзначаецца ў афіцыйным каментарыі да ўказу, сяброўства ў гэтай сістэме дазволіць спыніць адток замежнай валюты за мяжу ў памеры 5 млн. даляраў ЗША штогод у сувязі з неабходнасцю куплі рэзідэнтамі Рэспублікі Беларусь сертыфікатаў «Зялёная карта» замежных страхавых кампаніяў.

Указ прэзідэнта, падпісаны 26 сакавіка, уводзіць ў сілу пасля афіцыйнага апублікавання.

**Наталля КУЛАГІНА**

# Пасля смерчу пушчу рэжуць

У складаныя адносіны супрацьстаяння абаронцаў зялёнага багацця Белавежскай пушчы і нарыхтоўшчыкаў драўніны ў нацыянальным запаведніку ды яшчэ ў леспрамгасаўскіх маштабах умяшалася прырода. Моцны ўраган, які зачапіў пушчу напрыканцы лютага, загубіў 180 гектараў рэліктавага лесу. Паласа даўжынёю 4,5 кіламетры і шырынёю да 400 метраў нагадвае сабою след падзення метэарыту. Ствалы дрэваў зламаныя, нібыта запалкі. Ветравы шквал сарваў з 700-гадовага цар-дуба дзве вялікія галіны. Побач з ім з каранямі вырваныя векавыя хвоі, ясені, маладыя дубы. Генеральны дырэктар нацыянальнага парку Мікалай Бамбіза, ані не марудзячы, арганізаваў масавую распілоўку дрэваў у завалах. Зараз у пушчы працуюць ажно 44 (!) брыгады лесарубаў. Такога візгу пілаў самы стары лес Еўропы не чуў нават у захопніцкія войны. Жывы лес вывозіцца з пушчы на станкі магутнай дрэваапрацоўчай лініі ў вёсцы Камянюкі. Для працы без выходных сюды запрасілі 60 мужчынаў з вёсак Беларускага Палесся. Створаны ўдарны фронт на экспартным накірунку, бо дошкі з запаведніка карыстаюцца павышаным попытам у вытворцаў мэблі высокай экалагічнай пробы ў Нямеччыне.

Журналістам з недзяржаўных выданняў дарога ў пушчу закрытая. Іншыя наведнікі кажуць, што ім таксама не ўдаецца пабачыць зблізку працу лесарубаў, бо паваленыя тоўстыя дрэвы перагароджваюць унутраныя дарогі, як тыя шлагбаўмы. Адгарадзіўшы сябе ад людзей, кіраўнікі нацыянальнага парку спяшаюць вывалачы больш лесу на перапрацоўку, пакуль у званы трывогі не забілі айчынная навука, актывісты грамадскіх арганізацыяў і эксперты Еўрасаюзу. Як вядома, гэты аўтарытэтны каардынатар еўрапейскай супольнасці пакуль затрымлівае працэдуру ўручэння Белавежскай пушчы Дыплома Еўропы на паўторны пяцігадовы тэрмін. Дадатковыя сумненні з'явіліся пасля дасланага ў Савет Еўропы пісьмовага Звароту беларускай грамадскасці. Яго падпісалі Ніл Гілевіч і Юры Хадыка, Таццяна Процька і Святлана Алексіевіч, Радзім Гарэцкі і іншыя вядомыя ў Беларусі людзі. Сутнасць іх калектыўнай думкі ў тым, што новае кіраўніцтва Белавежскай пушчы парушае ключавыя правілы аховы прыроды. Прамысловае прыродакарыстанне і камерцыйнае асваенне пагражаюць унікальнаму лесу.

Карэспандэнт НАШАЙ СВАБОДЫ звярнуўся да Валерыя Дранчука – аднаго з тых, хто ініцыяваў зварот беларусаў у Савет Еўропы, а зараз робіць захады, каб спыніць новы ўсплёск гаспадарчай дзейнасці ў нацыянальным парку.

– У пушчу прыйшлі лесарубы ад улады, – **кажа Валерый Дранчук.** – У 2001 годзе яны высеклі больш як 50 тысячаў кубічных метраў драўніны. У 2002 годзе мелі намер нарыхтаваць яшчэ 60 тысячаў, а з улікам буралому ў лютым можна задаволіць і большы прагны апетыт. Калі ёсць лесазавод, то гаспадарнік спіць і думае, як яго загрузіць сыравінай. Таму пачалі лесапавал у запаведніку пад прыкрыццём барацьбы з жуком-карэадам. А зараз рукі развязаныя для некантраляванай суцэльнай высечкі. У пушчу не выклікалі спецыялістаў з Акадэміі навук для незалежнай экспертызы сітуацыі.

Адміністрацыя парку цалкам падпарадкаваная кіраўніцтву справамі прэзідэнта. За непрацяглы час ад догляду за лесам адлучаныя амаль 200 пушчанцаў. На іх месцы набіраюць наймітаў, якім усё роўна, дзе выкалочваць сабе заробак. У пушчы нават зручней, бо кубаметры большыя. Гэтыя людзі з піламі не задаюць лішніх пытанняў. Яны – паслухмяныя выканаўцы.

**Галіна БАРАВАЯ**

# У сенатары – без альтэрнатывы

26 сакавіка абраннем у Савет рэспублікі прадстаўніка па Брэсцкай вобласці скончылася фармаванне верхняй палаты Нацыянальнага сходу. Давыбары трох «сенатараў» замест тых, што з нейкіх прычынаў выбылі, праходзілі на безальтэрнатыўнай аснове.

«Сенатарам» ад Брэстчыны стаў Леў Дубовік – 1940 году нараджэння, інжынер-электрык, старшыня Камітэту па энергаэфектыўнасці пры Савеце міністраў, беспартыйны, на тэрыторыі вобласці пражыў звыш 20 гадоў. У Савеце Рэспублікі заняў месца Пятра Брыгадзіна, прызначанага міністрам адукацыі.

19 сакавіка ў Гомелі на пасяджанні базавых Саветаў дэпутатаў вобласці ў Савет рэспублікі абраны гомельскі губернатар – Аляксандр Якабсон. Губернатар прыйшоў на змену былому гендырэктару «Беларуснафты» Уладзіміру Муляку, які з'ехаў на сталае жыхарства ў Расію. За абранне Аляксандра Якабсона, 1951 году нараджэння, інжынера-будаўніка, палітолага, старшыні Гомельскага аблвыканкаму, які жыве на тэрыторыі рэгіёну звыш 49 гадоў, прагаласавалі практычна 98% з 710 дэпутатаў мясцовых Саветаў.

20 сакавіка на «сенатара» ад Гродзеншчыны абралі рэктара Гродзенскага дзяржаўнага аграрнага ўніверсітэту прафесара Вітольда Песціса – тайным галасаваннем за яго выказаліся 367 дэпутатаў, супраць – 12. В.Песціс нарадзіўся ў Гродзенскім раёне ў 1949 годзе; затэхнік, гарадзенец, беспартыйны, на тэрыторыі вобласці жыве больш за 50 гадоў.

Такім чынам, фармаванне Савету рэспублікі можна лічыць завершаным да пачатку вясновай сесіі, якая адкрываецца 2 красавіка – абраныя 63 з 64 «сенатараў». Адно месца застаецца за А.Лукашэнкам – ці мала каму за што прыйдзецца «аддзячыць» сенатарствам?

**Рыгор БУЯН**

# Суд над журналістамі «Пагоні»

28 сакавіка стала вядомая дата суду над галоўным рэдактарам газеты «Пагоня» Міколам Маркевічам і журналістам Паўлам Мажэйкам. Судовы працэс пачнецца 9 красавіка. Весці яго будзе суддзя Мікалай Сяргейка. Працэс адбудзецца ў Ленінскім раённым судзе Гродна.

Рэгіянальная газета «Пагоня» была закрыта 12 лістапада 2001 году. Працэс закрыцця выдання быў ініцыяваны абласной пракуратурай.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# Смалакурні на вуліцах сталіцы

Старшыня Мінскага гарвыканкаму Міхаіл Паўлаў узяў адпачынак. Сталічны гарадначальнік вось ужо два гады як пераехаў з дзяржгатэлю ў Драздах у службовую кватэру, што ў адным з элітных дамоў Мінску. Відавочна, што чыноўніку спатрэбілася перадышка, каб уладкаваць хатнія справы.

Тым часам падначаленыя, якія ачольваюць брыгады па добраўпарадкаванні гораду, абяцалі сустрэць «шэфа» прыгожа. З 15 сакавіка пачаўся месячнік па ачыстцы Мінску пасля зімы. Агульнагарадскі суботнік прызначаны на 20 красавіка. А суботнік на працоўных месцах з пералічэннем дзённага заробку людзей на асобны рахунак будзе аб'яўлены дадаткова. Неўзабаве на лозунгах-расцяжках над праезнай часткай вуліцаў з'явяцца заклікі да гараджанаў, дзе ключавым будзе радок з новага гімну па-расійску: «*И в этой красе величавой есть доля труда моего*».

Якую ж прыгажосць адчуваюць, прыкладам, вадзіцелі і мінакі, калі натыкаюцца на асфальце аб берагі свежаўтрамбаваных латак? Нават палатно галоўнага праспекту выглядае, як коўдра з абрэзкаў на ложку жабрака. Дрэнныя дарогі – таксама адлюстраванне беднасці. З-за таго, што не вядзецца капітальны рамонт, Мінск мае вострую патрэбу лапіць пасля зімы дарожнае пакрыццё на плошчы ў 186 000 квадратных метраў. Гэты ямачны рамонт, як кваліфікуюць справу адмыслоўцы, патрабуе вялікіх затратаў ручной працы і спараджае нездаровую экалагічную атмасферу, бо ў людных месцах працуюць «смалакурні» з гарачым бітумам. Каб ліквідаваць ямы на дарогах, гарадскому бюджэту давядзецца панесці выдаткі ў суме 4 мільярды 52 мільёны рублёў. Гэта палова сродкаў, запланаваных сёлета на ўсё дарожнае будаўніцтва ў сталіцы.

**Вячаслаў КУЛІК**






Фота Ул.ШЛАПАКА

# Арміі патрэбныя дактары душы

Ва Узброеных сілах Беларусі вельмі шмат вакантных пасадаў афіцэраў-выхавацеляў і афіцэраў-псіхолагаў. І кадравая праблема – не адзіная, што была на парадку дня збору ваенных псіхолагаў у Мінску. У інтэрв'ю БелаПАНу старшы афіцэр упраўлення маральна-псіхалагічнага забеспячэння УС падпалкоўнік Ігар Ахрамовіч паведаміў, што на зборы вялікая ўвага была нададзена маральна-псіхалагічнаму стану афіцэрскага корпусу УС. «Афіцэры і прапаршчыкі – тая сіла, на якой трымаецца сучасная беларуская армія», – заявіў І.Ахрамовіч. І.Ахрамовіч падкрэсліў, што рашэнне аб завяршэнні рэфармавання Узброеных сіл і іх скарачэнні – «гэта дзяржаўная задача, а не жаданне Мінабароны». «Мы людзі ваенныя і выконваем загад», – сказаў І.Ахрамовіч. Тым не менш «рэфармаванне ідзе часам балюча», і тут, паводле слоў падпалкоўніка, ваенныя псіхолагі «павінны быць псіхатэрапеўтамі, ісці і размаўляць з людзьмі, здымаць псіхалагічную нагрузку ў калектыве».

Асаблівая ўвага, паводле слоў І.Ахрамовіча, была нададзена аналізу выпадкаў суіцыду салдат тэрміновай службы. За большасцю выпадкаў суіцыду – «неразуменне маладым чалавекам самога сэнсу свайго існавання: для чаго, альбо для каго ён жыве? якія ў яго перспектывы? як яму далей жыць?»

**Юрый КАСЬЯНАЎ**

## Сусветны банк нам дапаможа

Новая стратэгія супрацоўніцтва Сусветнага банку (СБ) з Беларуссю на 2002-2004 фінансавыя гады, якая будзе рэалізоўвацца ў партнёрстве з урадам краіны, канцэнтруецца на галінах, «здольных прынесці адчувальную карысць Беларусі, дапамагчы краіне замацаваць інвестыцыйны клімат». Пра гэта заявіў кіраўнік прадстаўніцтва СБ у Беларусі Сяргей Кулік. Новая стратэгія была ўхвалена Радаю выканаўчых дырэктараў СБ 14 сакавіка.

Паводле словаў С.Куліка, стратэгія прадугледжвае два магчымыя сцэнары крэдытавання. Мінімальны – у аб'ёме да 140 мільёнаў даляраў ЗША – будзе падтрымліваць мерапрыемствы сацыяльнай значнасці, такія, як праект па ліквідацыі наступстваў Чарнобыльскай аварыі, а таксама стварэнне фонду сацыяльных інвестыцый.

Базавы сцэнарый з агульным аб'ёмам крэдытавання да 270 мільёнаў даляраў ЗША прадугледжвае падтрымку праектаў па развіцці прыватнага сектару і рэструктурызацыі прадпрыемстваў, рэфармаванні аховы здароўя, укараненні сістэмы адраснай сацыяльнай дапамогі і рэструктурызацыі сельскагаспадарчых прадпрыемстваў.

Паводле словаў С.Куліка, характэрнай асаблівасцю новай стратэгіі стала тое, што эксперты СБ правялі шырокія кансультацыі з грамадзянскай супольнасцю.

Цяпер СБ распрацоўвае комплекс мерапрыемстваў з удзелам няўрадавых арганізацый, і асаблівае значэнне надаецца падтрымцы ініцыятываў з рэгіёнаў Беларусі.

**Ірына САЗАНОВІЧ**

## Міліцыю і КДБ будуць скарачаць

*Сілавыя ведамствы Беларусі пастаўленыя перад пагрозай масавых скарачэнняў. «Будзе пастаянна змяншацца колькасць супрацоўнікоў сілавых ведамстваў, у прыватнасці, падпісаны ўказ і вызначаная штатная колькасць МУС у складзе 80 тысячаў – гэта толькі прамежкавы этап, і будзе далейшае скарачэнне колькасці МУС ды іншых сілавых ведамстваў». Такую заяву 28 сакавіка на брыфінгу зрабіў намеснік Дзяржаўнага сакратара Савету бяспекі Беларусі Міхаіл Удовікаў па выніках пашыранай нарады сілавых структураў з удзелам прэзідэнта 25 сакавіка.*



Міхаіл Удовікаў заявіў, што асноўная ўвага на нарадзе была аддадзена «выпрацоўцы новай канцэпцыі рацыянальнага выкарыстання сілаў і сродкаў па ліквідацыі раздробленасці, паралелізму ў працы». Розныя сілавыя ведамствы часцяком займаюцца адной і той жа працай: барацьбу з карупцыяй вядуць Міністэрства ўнутраных справаў, КДБ, пракуратура, памежныя войскі. «Нам неабходна было вызначыць – каб не было паралелізму ў працы, распылення сродкаў – ведамствы, якія будуць галоўнымі па дадзеным напрамку дзейнасці і будуць ажыццяўляць усе мерапрыемствы ў барацьбе са злачыннасцю. Такім ведамствам вызначана МУС, бо яго структуры даўно працуюць у гэтым кірунку, і па колькасці яно большае, чым іншыя ведамствы», – падкрэсліў М.Удовікаў.

«Прэзідэнт сур'ёзна скрытыкаваў дзейнасць нашых ведамстваў». Адзначана недастатковасць намаганняў Камітэту па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю МУС – выяўлены факты, даруючы за таўталогію, арганізаванай злачыннасці і карупцыі. Што да падраздзяленняў па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю, то, не кажучы ўжо пра мізэрную колькасць выяўленых фактаў буйнога хабару, выплачаны матэрыяльны ўрон па закончаных крымінальных справах не блізкі да 100%, і нават некаторым падраздзяленням не дазваляе акупляць іх сабекошт», – адзначыў М.Удовікаў.

Асобныя факты незаконнага выкарыстання фінансавых сродкаў ёсць у памежных войсках, злоўжыванне службовым становішчам, выкарыстанне службовага становішча ў асабістых мэтах зафіксаваны сярод супрацоўнікаў Мытнага камітэту.

Аднак найгалоўнейшай задачай нарады была выпрацоўка «праграмы працы ўсіх сілавых ведамстваў на бліжэйшыя два-тры гады». «На кожны дзяржаўны орган была ўскладзена адказнасць за рэалізацыю пэўнага кірунку дзейнасці», – сказаў М.Удовікаў. Савет міністраў разам з аблвыканкамамі мусіць унесці на падпісанне А.Лукашэнку «прапановы па ўдасканаленні дзейнасці праваахоўных ды іншых дзяржаўных органаў, скіраваных на паляпшэнне працы, асабліва ў сферы барацьбы з арганізаванай злачыннасцю, карупцыяй і эканамічнымі злачынствамі, а таксама рацыяналізацыю выдаткаў на іх утрыманне».

Саўмін мусіць унесці ў Крымінальны кодэкс змены і дапаўненні, «накіраваныя на стымуляванне зацікаўленасці грамадзянаў, якія прыцягваюцца да крымінальнай адказнасці, у поўнай кампенсацыі матэрыяльнага ўрону». Гэта значыць, што правасуддзе будзе «больш гуманна адносіцца да асобаў, што пераступілі закон, калі яны добраахвотна будуць кампенсаваць урон, прычынены дзяржаве і канкрэтным асобам – да іх будуць прымяняцца меры больш мяккія і, у асноўным, не звязаныя з пазбаўленнем волі – каб дзяржава не несла фінансавых выдаткаў на іх утрыманне».

Напрыканцы Міхаіл Удовікаў заклікаў СМІ перайсці «ад канфрантацыі да канструктыўнага дыялогу» і сышоў. Намеснік Дзяржсакратара не стаў нават адказваць на пытанні.

**Рыгор БУЯН**

## Курс на Усход

*Беларуская замежная палітыка працягвае арыентавацца на Усход. Заўтра міністр Міхаіл Хвастоў выпраўляецца ў Іран.*



Фота IREX/ProMedia

Як паведаміў ён сам на прэс-канферэнцыі 28 сакавіка, падчас візіту плануецца правесці пратакольныя перамовы з прэзідэнтам Ірану Махамедам Хатамі, прэм'ер-міністрам краіны, а таксама міністрамі замежных справаў, гандлю і культуры. Беларускі міністр замежных справаў перадасць М.Хатамі асабістае пасланне ад Аляксандра Лукашэнкі.

Па словах Міхаіла Хвастова, асноўная мэта ягонага падарожжа – падрыхтоўка візіту іранскага прэзідэнта ў Беларусь. Апроч таго, міністр плануе азнаёміцца з агульнапалітычнай сітуацыяй у рэгіёне і заняцца інтэнсіфікацыяй гандлёва-эканамічных стасункаў паміж дзвюма краінамі.

Год таму Беларусь наведаў іранскі міністр Камаль Харазі. Цяпер надышоў час адказаць візітам на візіт.

Паводле звестак, атрыманых з Міністэрства замежных справаў, падчас беларуска-іранскіх сустрэчаў будзе абмяркоўвацца магчымы ўдзел Беларусі ў праектах аднаўлення эканомікі Афганістану.

Дарэчы, на сваёй прэс-канферэнцыі М.Хвастоў адзначыў, што Беларусь пакуль не збіраецца ўсталёўваць дыпламатычныя стасункі з гэтай краінай. Па ягоных словах, пакуль нашай краіне хапае інфармацыі, што пастаўляюць МЗС Расіі, а таксама іншых краінаў. Адкрыццё нейкай беларускай місіі ў Афганістане магчымае толькі тады, заявіў міністр, калі наш бок пабачыць перспектывы атрымаць пэўны эканамічны прыбытак ад двухбаковага супрацоўніцтва з Афганістанам.

Адзначым, што дагэтуль талібскі Афганістан спецыялізаваўся на знешнім рынку хіба ў вытворчасці гераіну і іншых наркотыкаў, сыравіна для якіх у буйных памерах вырошчвалася пад пякучым афганскім сонцам. Потым наркотыкі паспяхова траплялі ў любую краіну свету. Натуральна, што афіцыйны Мінск такое супрацоўніцтва не цікавіць – прынамсі, афішаванае супрацоўніцтва. Пра іншы прыбытак ад разбуранай краіны пакуль рана весці размову.

Паводле МЗС, паміж Беларуссю і Іранам назіраецца паступовы рост тавараабароту. З 89 тысяч даляраў у 1993 годзе ён павялічыўся да 38,707 мільёна даляраў у 2001 годзе. Пры гэтым беларускі экспарт павялічыўся да 37,890 млн. даляраў ЗША, а імпарт склаў усяго 817 тысячаў даляраў. У Іран збольшага пастаўляліся пруткі з вугляродзістай сталі, сінтэтычныя валокны і ніці, калійныя ўгнаенні, электронныя інтэгральныя схемы, матацыклы. У Рэспубліку Беларусь, у асноўным, імпартаваліся прадукты для прыгатавання соусаў, вырабы з пластмасы, медыцынскія прыборы, а таксама свежы і сушаны вінаград.

Нагадаем чытачам, што Іран – разам з Паўночнай Карэяй і Іракам – быў залічаны амерыканскім прэзідэнтам Джорджам Бушам у шэрагі «восі зла». Гэта значыць, што, па звестках амерыканскіх спецслужбаў, афіцыйны Тэгеран не толькі падтрымлівае міжнародны тэрарызм, але і працуе над стварэннем уласнай зброі масавага паражэння. А вядомая газета *The New York Times* нядаўна распавяла сваім чытачам, што ў 2001 годзе прэзідэнт Ірану М.Хатамі падпісаў сакрэтную дамову з Палесцінай, паводле якой аўтаномія ў складзе Ізраілю атрымлівала вялікія партыі зброі ў абмен на разведдадзеныя пра Ізраіль. Асаблівую пікантнасць дадавала тое, што гэтая дамова нібыта была падпісаная ў Маскве. Пазней і іранская, і палесцінская афіцыйныя асобы абвергі гэтыя звесткі.

**Міхась КАРПОВІЧ**

## «Суд нагадвае мне тэатр»

*Сяргей Цурко – адвакат. Выступае абаронцам у судзе па крымінальных справах, узбуджаных супраць Віктара Івашкевіча – галоўнага рэдактара газеты «Рабочы», Міколы Маркевіча – галоўнага рэдактара газеты «Пагоня», шматлікіх крымінальных і адміністрацыйных справах. Прадстаўляе інтарэсы Святланы Завадскай у справе аб знікненні аператара ОРТ Дзмітрыя Завадскага.*



– Калі я пазнаёміўся з матэрыяламі крымінальнай справы, я сказаў, што папярэдняе следства не даказала віны В.Ігнатовіча і М.Маліка ў выкраданні Д.Завадскага. Доказы, якія прадставіла следства, я не мог лічыць абгрунтаванымі, здабытымі і замацаванымі адпаведна з законам. Я адразу звярнуў увагу, што асноўны доказ віны быў здабыты з парушэннямі Крымінальна-працэсуальнага кодэксу, паказанні сведкаў супярэчлівыя, блытаныя. Для мяне было істотным адно пытанне: «Яны ці не яны? А калі яны, то ці даказана гэта?» Калі б былі абгрунтаваныя доказы, тады б не было пытанняў. А так застаецца пытанне: «Дзе Д.Завадскі альбо яго цела?» Падкрэсліваю, мне глыбока несімпатычныя людзі, якіх абвінавацілі ў выкраданні Д.Завадскага. Але па гэтым эпізодзе ні следства, ні суд не прадставілі неабходных доказаў іх віны. Са мною падзяліся жонка і маці Д.Завадскага. Мы скарысталі свае правы і падалі скаргу ў Вярхоўны суд на адмену прысуду. Наша мэта адна: каб актыўна пачалося высвятленне ўсіх абставін знікнення Д.Завадскага.

***– Добра вядома, што сёння ў Беларусі вельмі мала справаў, якія тычацца свабоды слова ці ўдзелу ў акцыях апазіцыі, удаецца выйграць у судзе. У нас слабая школа адвакатаў?***

– У нас больш за дзве тысячы адвакатаў. Сярод іх вельмі шмат прафесійных людзей. Я не магу сказаць, што ў Беларусі слабая школа адвакатаў. Адвакаты – адна з частак беларускай эліты. А што тычыцца пытання, чаму амаль усе падобныя справы прайграюць, то тут ужо не прававая катэгорыя, а выключна палітычная. Адміністрацыйныя справы – цалкам палітычныя. Напрыклад, разгляд адміністрацыйных справаў, якія тычацца мерапрыемстваў, што адбыліся 24 сакавіка. Людзі святкавалі Дзень Волі і ўскладалі кветкі да помнікаў Янку Купалу і Якубу Коласу. Тут няма парушэння закону «Аб сходах, мітынгах, вулічных шэсцях, дэманстрацыях і пікетаванні». Для ўскладання кветак не патрабуецца дазволу. Але калі пачацца хапун, то складалі пратаколы за несанкцыянаванае правядзенне мітынгаў. На судзе адвакаты абгрунтоўвалі гэтае парушэнне. Але на нашыя абгрунтаванні суд не звяртаў увагі.

Паўла Севярынца пакаралі арыштам на 15 сутак. Судовы працэс павінен быў пачацца а 15 гадзіне, а за паўгадзіны да працэсу ўжо пад'ехалі міліцыянты. Я пытаюся: «Што вы тут робіце?» Адказ: «Прыехалі па Севярынца». Яны ўжо ведалі, якім будзе прысуд.

Тое, што адбывалася пазней у судзе, было звычайным спектаклем. Гэта была кепска адыграная пастаноўка. Суддзя вяла працэс, выносіла і падпісвала пастанову аб пакаранні П.Севярынца, але я лічу, што яна працавала па сцэнары. Дык пра якое права і закон можна гаварыць? Суд зараз – тэатр, які працуе па напісаным сцэнары. Ёсць галоўны сцэнарыст і ёсць рэжысёры. Тут няма сэнсу працаваць адвакатаў. Калі са мною заключаюць дамову, я так і кажу: «Гэта бессэнсоўна». Але людзі жадаюць, каб прыйшоў адвакат і прафесійна абгрунтаваў тыя парушэнні, якія дапускае суддзя. Напрыклад, адпаведна закону сведкам на судзе можа быць асоба незацікаўленая. А у нас на ўсіх паседжаннях сведкамі выступаюць міліцыянты ды амапаўцы. Іхныя сведчанні ні ў якім разе не могуць быць пакладзеныя ў аснову абвінавачання. Я звяртаю ўвагу суду на гэту акалічнасць і патрабую, каб мае пратэсты былі ўнесеныя ў пратаколы судовых паседжанняў. Суддзя не можа не бачыць відавочных парушэнняў, на якія звяртаюць увагу адвакаты. Падобныя судовыя працэсы не адпавядаюць ні Канстытуцыі, ні закону.

***– Часам складаецца ўражанне, што суды за кошт апазіцыі папаўняюць бюджэт краіны. Тыя нешматлікія акцыі, якія адбываюцца ў Беларусі, звычайна заканчваюцца хапуном. На наступны дзень ідуць суды, «парушальнікам» прысуджваюць немалыя штрафы. Гэтыя штрафы акуратна сплачваюцца і затрыманых адпускаюць.***

– Я не ведаю, ці гэта робіцца дзеля таго, каб папаўняць бюджэт краіны. Але гэта сапраўды так. Акцыі адбываюцца не толькі ў Мінску, але і па ўсёй краіне. Людзей забіраюць сотнямі. За рэдкім выключэннем іх папярэджваюць, але асноўная мера пакарання – штрафы.

***– Ці ёсць механізмы абскарджвання рашэнняў беларускіх судоў у міжнародных структурах?***

– Гэтыя механізмы для Беларусі абмежаваныя. Усе чулі пра Еўрапейскі суд па правах чалавека ў Страсбургу. Але ён разглядае справы ў рамках Еўрапейскай канвенцыі па правах чалавека толькі дзяржаваў – сябраў Еўрасаюзу. Беларусь – не сябра Еўрасаюзу.

Мы можам абскардзіць рашэнні суду ў Камітэце па правах чалавека пры ААН, але гэта не судовы орган. Гэты камітэт створаны ААН, і рашэнні, якія ён выносіць, не маюць абавязковага характару. Іх характар рэкамендацыйны. А справы там разглядаюцца вельмі марудна – ад некалькіх месяцаў да некалькіх год. Я рыхтаваў некалькі такіх скаргаў для сваіх кліентаў, але ніхто з іх не атрымаў пакуль рэакцыі.

**Гутарыла Валянціна ЛЕЦКА**

## Не з'явілася на суд

Разгляд крымінальнай справы Наталлі Брэль за паклёп у дачыненні да прэзідэнта адкладзены на няпэўны час.

Суд быў прызначаны на 27 сакавіка. Але абвінавачаная не прыйшла. З'явілася інфармацыя, што яна знаходзіцца ў Бельгіі, дзе звярнулася да ўладаў з просьбай аб прадастаўленні палітычнага прытулку.

**ІА ПЦ «Вясна»**

## Беларусь просіць мільёны ў Расіі

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Таму істотная зніжка кошту энерганосьбітаў тэарэтычна можа падвысіць іх цэнавую прывабнасць як у самой Беларусі, так і ў Расіі. На дадатак, Беларусь і Расія могуць нарэшце дамовіцца пра адзіныя тарыфы на паслугі чыгункі ў абедзвюх краінах.

На думку Міхаіла Хвастова, падпісанне ўсяго пакету беларуска-расійскіх эканамічных пагадненняў 12 красавіка замацуе пазіцыі беларускіх вытворцаў на расійскім рынку, у чым зацікаўленыя і Беларусь, і Расія. Па ягоных словах, эканамічныя заканадаўствы дзвюх краінаў практычна адпавядаюць адно адному. Таму міністр прапаноўвае «не спяшацца» – і болып старацца падагнаць свае эканамічныя заканадаўствы да нормаў Сусветнай гандлёвай арганізацыі, у шэрагі сябраў якой імкнуцца патрапіць як Расія, так і Беларусь.

Дарэчы, падчас прэс-канферэнцыі Міхаіл Хвастоў пацвердзіў, што на паседжанні Найвышэйшага савету Саюзнай дзяржавы можа адбыцца прызначэнне былога прэм'ер-міністра Беларусі Уладзіміра Ярмошына на «адказную пасаду» ў саюзных структурах. Назва пасады не ўдакладнялася. Дагэтуль У.Ярмошын, адстаўлены ад пасады адразу пасля прэзідэнцкіх выбараў, чакае вырашэння свайго лёсу. Магчыма, яго паклічуць замяніць на пасадзе дзяржаўнага сакратара Саюзнай дзяржавы Паўла Барадзіна – колькасць скандалаў вакол апошняга ўжо даўно перавысіла ўсе магчымыя нормы. А ягоныя публічныя заявы пра непатрэбнасць пасады беларускага прэзідэнта, агучаныя нядаўна, не маглі не выклікаць раздражнення афіцыйнага Мінску.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## Час – грошы

31 сакавіка з 3-х гадзінаў раніцы беларускія гадзіннікі пачнуць адлічваць так званы «летні» час. Пераводзячы стрэлкі ўсіх гадзіннікаў на гадзіну наперад, мы самі ўласнымі рукамі кароцім свой нядзельны адпачынак.

Пераход на «летні» і «зімовы» час прыдумалі дзеля эканамічнай выгады. Гэта эканомія электраэнергіі як мінімум на 10%. Упершыню, у 1908 годзе, да гэтага дадумаліся англічане, за імі – амерыканцы, і так паступова гэта прыжылося ў многіх краінах свету. Праўда, эканоміць электраэнергію можна і іншым спосабам – увядзеннем «плаваючага» пачатку рабочага дня ўлетку і ўзімку. Некаторыя краіны стрэлкі гадзіннікаў не пераводзяць. З былога СССР – Таджыкістан, Узбекістан, Туркменістан і краіны Балтыі. Напрыклад, Японія гэтага ніколі не рабіла.

У 1884 годзе Міжнародны астранамічны кангрэс прыняў рашэнне падзяліць мерыдыянамі ўсю паверхню зямнога шара на 24 часавых паясы праз кожныя 15° даўгаты. Пачаткам адліку стаў нулявы (грынвіцкі) мерыдыян. Што можа быць прасцей: у межах аднаго поясу час адзіны і адрозніваецца ад суседняга дакладна на адну гадзіну.

Аднак вельмі часта межы дзяржаваў не супадаюць з лініямі мерыдыянаў. Межы паясоў пачалі падганяць пад бліжэйшую дзяржаўную мяжу ці пад межы адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак. Але, напрыклад, той самы Кітай ігнаруе гэтыя правілы: геаграфічна ляжыць ён у пяці часавых паясах – з пятага па дзявяты адносна нулявога мерыдыяну, а жыве ўся краіна па часе восьмага часавага поясу.

Разам з тым у шмат якіх дзяржавах паясны час карэктуецца так званым «дэкрэтным». Гэта значыць, што дзяржава самастойна, па ўласных меркаваннях, змяняе паясны час на нейкае трывалае значэнне. Напрыклад, у Індыі, якая раскінулася на пяты і шосты пояс, розніца ў часе ад Грынвіча складае не пяць і не шэсць гадзінаў, а сярэдзіну паміж імі – 5 гадзінаў 30 хвілінаў. Ці ўзяць Непал, які адступіў ад свайго паяснога часу на 15 хвілінаў.

Перасякаючы мяжу якой-небудзь краіны, нават суседняй, заўсёды – у большай ці меншай ступені – цяжка зарыентавацца з часам, па якім жыве гэтая дзяржава, і адаптавацца да яго свой арганізм. Напрыклад, у спартоўцаў удалая адаптацыя ў часе – дужа важны фактар паспяховага выступлення на спаборніцтвах.

**Алена ЛАБАНАВА**

| ТАБЛІЦА З РОЗНІЦАЙ У ЧАСЕ ПАМІЖ БЕЛАРУССЮ І НЕКАТОРЫМІ ІНШЫМІ ДЗЯРЖАВАМІ | |
|---|---|
| ЗША (Аляска) | -11 гадзінаў |
| Куба, ЗША (Вашынгтон) | -7 гадзінаў |
| Аргенціна | -5 гадзінаў |
| Англія | -2 гадзіны |
| Германія | -1 гадзіна |
| Турцыя, Еўрапейская частка Расіі | +1 гадзіна |
| Кітай | +6 гадзінаў |
| Японія | +7 гадзінаў |

# Скажы дзецям «так»!

31 сакавіка грамадскія арганізацыі Горак на чале з жаночай ініцыятываю «Любава» праводзяць акцыю «Скажы дзецям «так»!» па зборы ахвяраванняў для дзяцей Старасельскай школы-інтэрнату. Месцам збору ахвяраванняў будзе гарадскі кірмаш. Актывісткі «Любавы» звяртаюцца да ўсіх жыхароў гораду Горкі, да навedвальнікаў і гандляроў кірмашу з просьбай ахвяраваць рэчы на карысць «інтэрнатаўцаў».

У школе-інтэрнаце вёскі Стараселле, што за 20 кіламетраў ад Горак, навучаюцца 22 хлопчыкі і дзяўчынкі з усяго Горацкага раёну ва ўзросце ад 6 да 12 год. Яны – так званыя сацыяльныя сіроты, гадуюцца ў незаможных і няпоўных сем'ях. Для іх бацькоў кругласутачнае знаходжанне дзіцяці на ўтрыманні школы-інтэрнату – магчымасць звесці канцы з канцамі ў цяжкім матэрыяльным становішчы.

Ініцыятыву «Любава» заснавалі 11 горацкіх жанчын у чэрвені мінулага году. Яе сяброўства са Старасельскай школай-інтэрнатам пачалося ў канцы мінулага году, калі актывісткі ініцыятывы разам з прадпрымальнікам і місіянерам Уладзімірам Якубовічам арганізавалі сямейнае свята для дзяцей. Калі жанчыны з «Любавы» рыхтаваліся да наступнай сустрэчы з навучэнцамі, мясцовыя «Рэгіянальныя ведамасці» ў артыкуле *«Найдите нам спонсора!» просят работники школы-интерната»* напісалі пра катастрафічны стан дзяржаўнага забеспячэння ўстановы. На паседжанні Горацкага прэс-клубу дырэктар Старасельскай школы-інтэрнату Юры Іваноў пацвердзіў, што будынкі школы патрабуюць капітальнага рамонту. Пакуль інтэрнат чакае бюджэтных сродкаў, грамадская акцыя пакліканая дапамагчы яго навучэнцам адзеннем, абуткам і мыйнымі сродкамі.

31 сакавіка сябры «Любавы» і Горацкага грамадскага клубу «УзГорак» распаўсюдзяць сярод насельніцтва і гандляроў горацкага кірмашу абвесткі з просьбай аб дабрачынную дапамогу дзецям. З 9.00 да 14.00 яны будуць прымаць рэчавыя ахвяраванні ў адміністрацыйным будынку кірмашу. Ахвяраванні будуць перададзены дзецям Старасельскай школы-інтэрнату падчас арганізаванай для іх забаўляльна-пазнаваўчай праграмы.

У гэты момант толькі кіраўніца грамадскага клубу «УзГорак» Наталля Сяргеева бачыць, хто з «інтэрнатаўцаў» лепш малюе з завязанымі вачыма

**Даведка НАШАЙ СВАБОДЫ**

На Магілёўшчыне цяпер болей за 4 тысячы непаўналетніх сірот. З іх толькі палова жыве ў апякунскіх ці прыёмных сем'ях. Летась у вобласці было зарэгістравана 77 выпадкаў, калі бацькі адмовіліся ад свайго дзіцяці. Пры гэтым 179 дзяцей усынавілі.

# «Ціха, ціха, мы – у засадзе»

## *Міліцыянты помсцяць настаўніцам за свае школьныя гады*

*Гомельская міліцыя вось-вось пераможа злачыннасць. Поўнасцю і канчаткова. Засталіся толькі невялічкія выспачкі гэтай самай злачыннасці, прычым найбольш – у мікрараёне Валатава. Ды не проста ў мікрараёне, а ў школах. І самыя «японістыя Япончыкі» тут – педагогі. Прынамсі, на іх міліцыянты і вядуць паляванне, як на заўзятых алькапонаўцаў.*

– Я пасля змены, – прыгадвае настаўніца школы-інтэрнату № 5 Валянціна Семянкова, – вярталася дамоў разам з Аленай Аўрыцэвіч. Пры выхадзе з тэрыторыі школы ў цёмным месцы сустрэчны прахожы нечакана хапае мяне за руку. Алена спалохана адскочыла, а мяне невядомы моцна трымае за руку і загадвае: «Пакажыце вашу сумачку!»

Педагагічны такт настаўніцы і хвілінная атарапеласць уратавалі незнаёмца ад апляваухі.

Крыху перавёўшы дух, Семянкова стала абурацца: «Што за праверкі ў цемры? Хто вы такі?»

– Ціха, ціха, мы – у засадзе, – зашаптаў перахватчык.

– Вы што – маньяк? – апомнілася і Алена Аўрыцэвіч.

– Не маньяк, а з міліцыі, – адказаў мужчына і палез нават ва ўнутраную кішэню сваёй дутай курткі за пасведчаннем.

Марнасць нейкай праверкі ў цемры была відавочнай. Настаўніцы грэбліва адвярнуліся ад ахоўніка парадку і пакрочылі сваёй дарогай.

* * *

Выхавацельку Аляксандру Юркову двое міліцыянтаў у цывільным перахапілі па-за межамі школы, калі тая ішла ад крамы хлебазаводу з назваю «Свежы хлеб».

– Што ў сумцы?

– Хлеб.

– А дзе ўзялі?

– Купіла ў краме.

– А можа вы яго ў школьнай сталоўцы ўзялі? – прыдзіраліся ахоўнікі.

– Ён жа цёплы, – пасароміла выхавацелька незадачлівых сышчыкаў.

* * *

Людмілу Матусевіч перахватчыкі заспелі на дарозе паміж суседняй СШ № 54 і стаматалагічнай паліклінікай. Было гэта а палове другой гадзіны дня. Акурат пасля працы ў школе настаўніца купіла ў краме хлебазаводу свежую булку за 260 рублёў і паспяшалася на кватэру да дзіцяці-інваліда, каб правесці чарговыя хатнія заняткі. Тут і выраслі на дарозе двое маладых людзей у цывільным. Адзін – тонкі і высокі, другі – тоўсты і малы.

Паказалі пасведчанне міліцыі і запатрабавалі зноўтакі сумку.

– Я напачатку збянтэжылася, – кажа Людміла Матусевіч, – працягнула ім сваю сумку. Яны пакорпаліся, перавярнулі ўсё. Там ляжала булка. Пытаюць: «А дзе вы яе ўзялі?» Адказваю: «Купіла».

Міліцыянты запатрабавалі чэк.

– Навошта мне чэк на 260 рублёў? – лагічна адказала настаўніца. – Дый не даюць яго ў краме.

– Няма чэка – пашлі з намі, – загадалі міліцыянты.

– Нікуды я з вамі не пайду. У мяне заняткі.

Настаўніца крок улева – і міліцыянты сценкай улева. Настаўніца ўправа – і яны ж туды. Пасля наогул схапілі пад рукі і сталі цягнуць.

—Дзе ўзялі батон хлеба? Прад'явіце чэк!..

Сярэдняя школа №...

– Не чапайце мяне! Вы не маеце права! – запратэставала Матусевіч.

На жаль, ніхто з прахожых не прыйшоў настаўніцы на дапамогу. Са слязамі на вачах яна ўсё ж вырвалася ад перахватчыкаў.

З галаўным і сардэчным болем настаўніца зайшла ў стаматалагічную лякарню, папрасіла вады. Болі не спыняліся, і Людміла Матусевіч пацыху пайшла ў сваю паліклініку да ўчастковага доктара. Той памераў ціск – 150 на 100 – і аказаў дапамогу.

Чатыры цяжкія гадзіны са школьнікам-інвалідам настаўніца Матусевіч ледзьве стрывала.

– Прыйшла дадому, – кажа Людміла Аляксандраўна, – і думаю: Божа, дзе я жыву? Чаму так нахабна ўмешваюцца ў маё жыццё? Чаму без дай прычыны мне псуюць настрой і здароўе?

Настаўніца хварэла тры дні. Імя аднаго міліцыянта яна запомніла – **сяржант Аляксандр Уладзіміравіч Сакалоў**. Напарнік пасведчання не паказаў.

Праз аддзяленне міліцыі Людміла Матусевіч высветліла, што сяржант Сакалоў працуе ў службе аховы. Чаму ён з напарнікам на вуліцы шнарыць па сумках педагогаў, а не ловіць тых жа кватэрных зладзеяў, ніхто настаўніцы толкам не патлумачыў.

* * *

Выпадак з Людмілай Матусевіч стаў апошняй кропляй, якая перапоўніла цярпенне педагогаў. 25 сакавіка яны накіравалі пракурору Чыгуначнага раёну Гомелю Леаніду Лашкіну чатыры адмысловыя заявы. Настаўнікі патрабуюць уздзейнічаць на міліцыю з тым, каб спыніць неабгрунтаваныяператрусы на шляху са школы дамоў.

Дырэктар школы-інтэрнату № 5 Алег Байкачоў і старшыня школьнай рады Ніна Швед далучылі да заяў педагогаў сваю афіцыйную просьбу разабрацца, што адбываецца вакол школы. І вось чаму: педагогі не маюць дачынення да блокаў харчавання школьнікаў. У хадайніцтве, у прыватнасці, сказана, што «сустрэчы з супрацоўнікамі праваахоўных органаў для многіх абяртаюцца сардэчнымі прыступамі і стрэсамі».

І сапраўды, у засады міліцыянтаў-ахоўнікаў жанчыны-педагогі трапляюць даволі часта. У цёмны час сутак тыя проста палохаюць настаўніц. Хапаюць за рукі, за сумкі. Уражанне такое, што дзейнічаюць рабаўнікі альбо наогул гвалтаўнікі.

Як маркуюць выкладчыкі, міліцыянты не столькі вартуюць школьныя сталоўкі, колькі займаюцца паборамі.

– Яны круцяцца не толькі каля нашай школы, – сцвярджае старшыня прафкаму Людміла Баравікова, дарэчы, таксама пацярпелая ад засады. – Ахоўнікі ў цывільным круцяцца таксама каля школы № 54 і Дома немаўляці. У іх мэта – даходнае месца. Я, вядома, не прысутнічала, але кажуць, што заўсёды можна адмазацца. Калі ў работнікаў сталоўкі ёсць штонебудзь у сумцы, то пры пэўным хабары, які даюць, усё прыкрываецца. Здараецца, праверяюць яны нас у нецвярозым стане. Мы ідзём са школы і пах спіртнога вельмі добра адчуваем.

Над апошняй з'явай педагогі моцна не задумваліся і высноваў пакуль не рабілі. Мне ж падаецца, што ахоўнікі наогул не спажываюць моцных напояў. Яны проста хмялеюць ад прадчування хуткай і канчатковай перамогі над апошняй выспай лютай злачыннасці.

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ**

# Якім быць мемарыялу?

*У аўторак адбылося чарговае паседжанне грамадзянскай ініцыятывы «За ўратаванне Курапатаў». Гэтым разам тэмай абмеркавання стаў мастацкі вобраз мемарыялу, які павінен паўстаць на месцы забойства ахвяраў палітычных рэпрэсій. Канцэпцыю мемарыялу ўзгаднілі і прынялі на мінулым паседжанні. Трэба адзначыць, што ў параўнанні з папярэднім праектам, прапанаваным Камітэтам міру, гэты варыянт выглядае бліжэйшым да рэчаіснасці.*



Мемарыял афіцэрам Войска Польскага, расстраляным у Катыні

Аднак пра мастацкае ўвасабленне згаданая канцэпцыя кажа досыць агульнымі фармулёўкамі. У ёй толькі адзначана, што «па ўсім перыметры гісtarga-культурнай каштоўнасці належыць устанавіць агароджу з брамай», а «існуючыя Крыж пакуты і памятныя знакі ўшанавання павінны застацца дамінантай будучага мемарыялу». А таксама падкрэсліваецца, што «ў мастацкім увасабленні мемарыялу непрымальная гігантаманія канструкцый і збудаванняў». Напэўна, гэта адказ ініцыятывы на недарэчную прапанову Камітэту міру ўзвесці на месцы пахаванняў 25-метровых крыж, «зроблены з усіх пародаў дрэваў Беларусі».

Два паняцці, якія, на думку ўдзельнікаў паседжання, найбольш пасуюць да мемарыялу, што мае паўстаць, – гэта «смутак» і «адкупленне». Першае азначае тое, што неадʼемна прысутнічае на кожным месцы пахавання, – смутак праз страту чалавека, другое – «адкупленне граху перад продкамі і абяцанне наступным пакаленням не дапусціць такой трагедыі».

Валянціна Трыгубовіч прапанавала выкарыстаць таксама сімвал раптоўна абарванага чалавечага жыцця: зламаную кветку, разбіты кубак ці пасудзіну. «Мастацкі вобраз павінен быць дастаткова выразны, каб не даць сцерціся ў памяці народу той трагедыі, што адбылася ў Курапатах», – адзначыла сп. Трыгубовіч. Прагучала думка, што, акрамя памяці пра ахвяраў, у мемарыяле павінен прысутнічаць і вобраз ката. Але чый гэта вобраз і хто канкрэтна вінаваты ў паламаных лёсах курапацкіх ахвяраў, прысутныя так і не вызначылі. Адназначнага рашэння па мастацкім увасабленні не прынялі. Удзельнікі абмежаваліся агульнымі словамі і выказваннем сваіх меркаванняў.

Традыцыйна вострая пры абмеркаванні праблемы мемарыялу паўстала рэлігійнае пытанне. Накант гэтага прагучалі вельмі розныя меркаванні. Напрыклад, гісторык Ігар Кузняцоў лічыць, што надаваць будучаму мемарыялу нейкі рэлігійны змест не мае ніякага сэнсу, бо ўвасобіць шматканфесійнасць Беларусі ў межах мемарыялу ўсё роўна не атрымаецца, а ў такім выпадку «альбо мы пагаджаемся з дамінантай аднэй з канфесій і поўнай яе манаполіяй на Курапаты, альбо непазбежны канфлікт».

У канцэпцыі помніка пазначана, што мастацкае ўвасабленне мемарыялу павінна быць прымальнае для розных канфесій, а «культавыя збудаванні, якія, магчыма, будуць створаныя ў перспектыве, павінны быць па-за межамі ахоўнай зоны». Такім чынам, не стваральнікі схіляюцца да таго, што мемарыял павінен мець выключна грамадзянскі характар і быць пазбаўлены рэлігійнага напаўнення. Узнікае пытанне, што ў такім выпадку рабіць з Крыжам, вобраз якога трывала асацыюецца з Курапатамі?

Удзельнікі дыскусіі пагадзіліся, што ўсе дакументы, датычныя Курапатаў, маюць сёння агульны характар, і што дагэтуль ніхто не вызначыўся з крытэрамі, паводле якіх павінны будавацца помнікі ахвярам генацыду.

Па сутнасці, спрэчкі вакол мемарыялу цалкам нагадваюць агульную сітуацыю ў беларускім грамадстве – разгубленасць, адсутнасць ідэй і нежаданне браць адказнасць за тое, што адбываецца.

Застаецца інтрыгуючай загадкай і галоўнае: ніхто не ведае і не разумее, калі можа быць узведзены мемарыял, хто і ў якіх абʼёмах яго прафінансуе (дзяржава, грамадскія арганізацыі, народ, замежныя фундатары і г.д.), хто зацвердзіць аўтарытэтнае журы, здольнае выбраць праект-пераможцу, хто абвесціць конкурс і якія вытворчыя сілы (праектныя інстытуты і будаўнічыя арганізацыі) будуць задзейнічаны. Без вырашэння гэтых фундаментальных пытанняў дыскусіі пра патрэбны сімвал смутку ў Курапатах носяць схаластычны характар, адпавядаючы невысокаму палёту фантазіі добрых сэрцам дылетантаў.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

# Гімнавыя фаварыты

*У сераду адбылося паседжанне дзяржаўнай камісіі па конкурсе на гімн Беларусі. На ім з болей як чатырох соцень гімнавых варыянтаў, прынятых на конкурс, былі адабраныя тры песні, з якіх застанецца адна, што і набудзе статус гімну.*

Які ж густ у міністра культуры Леаніда Гулякі, міністра інфармацыі Міхаіла Падгайнага, начальніка ідэалагічнага ўпраўлення Адміністрацыі прэзідэнта Івана Карэнды, старшыні Саюза кампазітараў Ігара Лучанка, дырэктара Інстытуту літаратуразнаўства Уладзіміра Гніламёдава, мастацкага кіраўніка Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі Міхаіла Фінберга і ў іншых вядомых у краіне асобаў, што ўвайшлі ў склад гімнавай камісіі?

Паводле іхняга выбару, у першым туры конкурсу пераможцамі сталі песні «Радзіма мая дарагая!» на музыку Уладзіміра Алоўнікава і словы Алеся Бачылы, «Красуй, Беларусь!» на музыку Васіля Раінчыка і словы Леаніда Пранчака, а таксама, як многія і чакалі, мелодыя цяперашняга беларускага гімну. Праўда, яна ў спісе трох гімнавых фаварытаў фігуруе без словаў. Як прызнаюцца чальцы камісіі, прапанаваныя варыянты тэкстаў да музыкі Нестара Сакалоўскага «досыць слабыя» і ў паэтычным сэнсе, і ў плане дапасавання да гэтай мелодыі. Тым не менш у другім туры яны будуць разглядаць звыш сотні варыянтаў словаў на музыку Сакалоўскага – як зусім новыя вершы, так і перарoбкі верша Міхася Клімковіча са старога гімну БССР. Што-небудзь ды выберацца. Калі выйграе музыка Сакалоўскага разам з падрыхтаваным тэкстам Клімковіча, то атрымаецца рыхтык на расійскі ўзор.

Наступнае паседжанне гімнавай дзяржкамісіі мае прайсці 10 красавіка. Тады, відаць, і назавуць песню, што стане дзяржаўным беларускім гімнам. Нагадаем, што ўпершыню афіцыйна новы дзяржаўны гімн Беларусі мае быць выкананы 3 ліпеня. Можна не сумнявацца, што гэты конкурс, у адрозненне ад двух спробаў, што рабіліся ў 1990-ых гадах і скончыліся нічым (тады пакінулі ў якасці гімну бясслоўную музыку Сакалоўскага), пройдзе вынікова. Згадайма хоць бы, як рашуча і надта хутка дзейнічала цяперашняя ўлада ў пытаннях герба і сцяга.

Цікава, як да рашэння чальцоў камісіі паставяцца тыя, хто выступаў за іншыя варыянты гімну? Напрыклад, тыя, хто за «Магутны Божа»? Можа выйсці так, што яшчэ адзін атрыбут беларускай дзяржавы – следам за сцягам ды гербам – будзе недарэчна падзелены на «апазіцыйны» і «ўладны». Па ўсім відаць, да грамадскае згоды беларусам дужа далёка. Такая сітуацыя вельмі верагодная, калі гімнам пакінуць музыку Сакалоўскага. А вось перамога кампазіцыяў «Красуй, Беларусь!» ці «Радзіма мая дарагая!» можа стаць у гэтым плане кампрамісам. Дарэчы, аўтар музыкі «Радзімы...» – ужо аўтар аднаго гімну, сталічнага: «Песні пра Мінск».

Яшчэ на гэтым тыдні абвешчаны конкурс на гімн Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. У беларускіх паэтаў і кампазітараў ёсць спакуса атрымаць у якасці пераможцы конкурсу 300 тысяч расійскіх рублёў, а не то тэкст і музыку напішуць які Сяргей Міхалкоў і Ігар Крутой. Зрэшты, можа і прыдумляць нічога не трэба – узяць хоць бы *«Широка страна моя родная»* дый усё тут!

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

ПРЭМІІ

## Уладальніца «Крыштальнай Паўлінкі»

Уладальніцай прыза Беларускага саюзу тэатральных дзеячаў (БСТД) «Крыштальная Паўлінка-2002», які з 1992 году штогод уручаецца за яркае і таленавітае жыццё ў тэатры, стала актрыса Нацыянальнага акадэмічнага тэатру імя Якуба Коласа Святлана Акружная.

Імёны ўладальнікаў прызоў БСТД сталі вядомыя 27 сакавіка на ўрачыстай вечарыне ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы, які быў прысвечаны Міжнароднаму дню тэатру. У свой час уладальнікамі «Крыштальнай Паўлінкі» – галоўнай тэатральнай узнагароды – былі Стэфанія Станюта, Расціслаў Янкоўскі, Наталля Гайда, Валерый Раеўскі, Лілія Давідовіч і іншыя вядомыя тэатральныя дзеячы краіны.

Прыз «Крыштальная Зорка-2002» атрымаў Вадзім Дапкюнас – за плённую шматгадовую працу на пасадзе начальніка аддзелу тэатраў Міністэрства культуры Беларусі. Прыз за яркі дэбют «Крыштальная Кветка-2002» уручаны маладой актрысе Беларускага дзяржаўнага тэатру лялек Ніне Сяўніцкай. Прыза памяці «Крыштальны Агмень-2002» удастоена актрыса Купалаўскага тэатру Галіна Арлова, жонка і маці вядомых артыстаў – Мікалая Яроменкі і Мікалая Яроменкі-малодшага. Сёлета Гільдыя тэатральных рэжысёраў і *«Национальная экономическая газета»* заснавалі прыз «Надзея», які ўручаны маладому рэжысёру Дзмітрыю Марыніну.

Падчас вечарыны першы намеснік міністра культуры Беларусі Уладзімір Рылатка уручыў узнагароды Савету міністраў і Міністэрства культуры – за шматгадовую плённую працу ў галіне тэатральнага мастацтва і за асобы ўклад у развіццё беларускай культуры – прадстаўнікам тэатральнай грамадскасці краіны, у тым ліку Ігару Сігаву, Ларысе Юдзінай і Арнольду Памазану.

**Маша ПЯТРОВА**

## Чарговае «вялесаванне»

29 сакавіка ў полацкім Музеі беларускага кнігадрукавання адбудзецца ўручэнне літаратурнай прэміі «Гліняны Вялес». Прэмія прысуджаецца за найлепшую беларускую мастацкую кнігу году. Сёлета ўпершыню для абмеркавання кандыдатаў на лаўрэацтва выкарыстаў інтэрнэт. Па выніках вылучэння і абмеркавання, якое прайшло на форуме сайту «Беларуская палічка», быў складзены шорт-ліст з пяці прэтэндэнтаў. Лёс «Вялеса-2001» вырашыла экспертная рада. «Гліняны Вялес» атрымае мінскі паэт Віктар Слінко за зборнік вершаў «Штольні вясны».

**Алесь КОЗІК**

АБВЯРЖЭННЕ

## Было зусім не так

У газеце НАША СВАБОДА ад 27 сакавіка 2002 году быў апублікаваны артыкул «Аматары пушкінскай ліры», дзе аўтарка Галіна Ружкавец падала інфармацыю пра беларускамоўныя падручнікі, узяўшы за прыклад некаторыя кнігі з бібліятэкі нашай СШ № 193 г. Мінску. Лічым, што ў артыкуле інфармацыя пра тое, што падручнікі са школьнай бібліятэкі меліся вывезці на сметнік ці на вогнішча як непатрэбныя, не адпавядае рэчаіснасці і зневажае нас і нашую школу.

Насамрэч падручнікі былі перададзеныя ў Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны па просьбе навучэнцаў школы. Яны падышлі да настаўніцы А.Ярховай, каб тая звярнулася да бібліятэкаркі Т.Жоўны з прапановай аб перадачы для нейкай новай гімназіі падручнікаў для беларускамоўных класаў. Навучальны фонд нашай школы дазваляе дзяліцца такімі падручнікамі. Падручнікаў для беларускамоўных класаў мы не выкідалі, а наадварот – захавалі і, перадаючы іх у ТБМ, думалі, што нашая дапамога напраўду патрэбная. А на справе дабрачынная акцыя аказалася патлумачаная супрацьлегла нашым намерам.

Таму мы вярнулі свае падручнікі з ТБМ у бібліятэку школы. Шкада, што неправераныя факты былі надрукаваныя для шырокага чытача.

**Тамара ЖОЎНА,** бібліятэкарка СШ № 193
**Алена ЯРХОВА,** настаўніца беларускай мовы СШ № 193

ФЕСТЫВАЛЬ

## Музыка пасляВялікоднага тыдня

З 1-га па 7-га красавіка ў Мінскім касцёле Св.Роха (пр.Скарыны, 44 А) пройдзе Трэці фестываль духоўнай музыкі «Залатагорская Ліра». Фестываль прысвечаны каталіцкаму Вялікадню і заэвычай адбываецца ў першы тыдзень пасля свята.

Усе ўдзельнікі выступаюць без аніякай матэрыяльнай заахвочанасці, а слухачы наведваюць усе канцэрты бясплатна. ра Кісценя, фестываль распачнецца а 19-й гадзіне 1 красавіка вечарынай вакальнай музыкі. На ёй выступяць салісты Вялікага тэатру оперы Беларусі Віктар Скорабагатаў, Тамара Рэмез і Тэрэза Чарыева, канцэртмайстар Нацыянальнай дзяржтэлерадыёкампаніі Ганна Каржанеўская, арганістка Архікатэдральнага касцёлу Найсвяцейшага Імя Панны Марыі Вікторыя Янько ды іншыя музыкі.



Фота Ул.ШЛАПАКА

Гэта стала ўжо добрай традыцыяй фестывалю, той адметнасцю, якая стварае непаўторную, шчырую і творчую атмасферу на канцэртах. Фестываль арганізаваны музычным таварыствам «Ліра» Мінскага касцёлу Найсвяцейшай Тройцы (Святога Роха).

Паводле інфармацыі ад кардынатара праекту музычнага таварыства «Ліра» Вікта-

Наступнымі фестывальнымі днямі перад вернікамі і проста гледачамі будуць граць і спяваць хор «Арыента», канцэртны хор Рэспубліканскага музычнага каледжу, дзіцячы хор «Крынічка», мужчынскі хор касцёлу Св.Сымона і Алены, хор касцёлу Св.Роха ды багата хто яшчэ.

**Марʼян КАРЫМОНТ**

ЛІНГВАЦЫД

## Русіфікаваныя тэлефонныя службы

Грамадскае абʼяднанне «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» выступае супраць пераводу на рускую мову ўсіх даведачных тэлефонных службаў гораду Мінску. Пра гэта гаворыцца ў лісце, які старшыня ТБМ Алег Трусаў накіраваў начальніку унітарнага прадпрыемства «Мінская-гарадская тэлефонная сетка» (МГТС) Івану Жытко. Падставай для гэтага звароту стала інфармацыя аб пераводзе на рускую мову ўсіх даведачных тэлефонных службаў сталіцы.

Як адзначаецца ў лісце, «нават служба дакладнага часу, якая не патрабуе ніякіх намаганняў ад вашых супрацоўнікаў, дэманструе непрыняцце роднага слова карэнных жыхароў краіны. Лічым, што такое ігнараванне нашай роднай мовы парушае канстытуцыйныя правы грамадзян атрымліваць інфармацыю на дзяржаўнай беларускай мове». Трусаў нагадвае, што «нечаканае і нічым не абгрунтаванае стварэнне перашкод і абмежаванняў беларускамоўным грамадзянам у атрыманні імі даведачнай інфармацыі на роднай мове зʼяўляецца парушэннем артыкулу 172-2 Кодэксу Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях», – гаворыцца ў лісце ТБМ.

**Марат ГАРАВЫ**

ЗДАРОЎЕ

## Супрацьзачаткавыя таблеткі вядуць да раку

Працяглы прыём супрацьзачаткавых сродкаў не застаецца беспакараным. Пра гэта паведамілі ў Барселоне на Еўрапейскай канферэнцыі па раку грудзей аўтары даследавання – нарвежскія вучоныя з універсітэту Тромсэ і іхнія калегі з Францыі і Швецыі. Яны прызналі, што пры прыёме аральных кантрацэптываў павялічваецца рызыка ўзнікнення ракавых пухлінаў у грудзях.

Вучоныя прааналізавалі звесткі пра здароўе 103 тысячаў жанчын у веку ад 30 да 49 гадоў. Назіралі за імі амаль на працягу дзесяцігоддзя. Першы агляд праводзіўся ў 1991 і 1992 гадах, апошні – у снежні 1999 году.

Як паведамляецца, за гэты час рак малочных залозаў быў выяўлены ў 1 008 жанчын. Рызыка вырастала на 26%, калі жанчына калі-небудзь ужывала аральныя кантрацэптывы. Працяглае выкарыстанне таблетак павялічвала верагоднасць захворвання да 58%, а тых, што працягвалі прымаць гарманальныя прэпараты пасля 45 гадоў, рызыкавалі на 144% болей.

Вучоныя адзначылі, што бальшыня ўдзельніц эксперыменту атрымоўвала сучасныя прэпараты з даволі невысокім утрыманнем гармонаў, а не тыя, што спажываліся раней і спалучаліся з вялікай колькасцю пабочных эфектаў. Таксама даследчыкі паказалі, што рызыка захворвання зніжалася да нармальных значэнняў праз дзесяць гадоў пасля спынення прыёму кантрацэптываў.

За апошнія 30 гадоў распаўсюджанасць раку малочных залозаў расце. Не ў апошнюю чаргу гэта звязана з пашырэннем аральных кантрацэптываў, але, як адзначаецца ў дакладзе, важную ролю адыгралі рэдкія і познія роды, больш позняе наступленне перыяду менапаўзы і схільнасць да лішняй масы цела.

**Вераніка КРУЧКОВА**

## Трапіць на аўкцыён

Бартавы журнал, дзе пілот амерыканскага бамбавіка, які скінуў першую атамную бомбу, апісаў свае перажыванні, паступіў на продаж на аўкцыён *Christie's* у Нью-Йорку. Чакаюць, што кошт журналу можа дасягнуць 215 тысячаў фунтаў стэрлінгаў, паведаміла газета *Daily Telegraph*.

«Божа, што мы нарабілі!» – такі запіс зрабіў капітан Роберт Льюіс, пілот бамбавіка Б-29, убачыўшы грыбападобнае воблака над Хірасімай. Выбух бомбы забраў тады 100 тысяч жыццяў. Капітан Льюіс зрабіў малюнак воблака на вокладцы сшытка з адзінаццаці старонак, на які потым быў пастаўлены грыф «Абсалютна сакрэтна». Цяпер гэты сшытак можа стаць уласнасцю нейкага аматара рарытэтаў.

Пілот амерыканскіх ВПС апісаў усё, што адбылося пасля выбуху бомбы «Дзіця», скінутай на Хірасіму 6 жніўня 1945 году. «Хвіліну пасля гэтага ніхто не ведаў, што і думаць, – піша ён. – Успышка была жахлівая. Праз 15 імгненняў мы адчулі два моцныя ўдары – турбулентныя патокі, – але болей ніякіх фізічных наступстваў мы на сабе не адчулі».

«Затым мы развярнулі самалёт такім чынам, каб можна было ўбачыць наступствы выбуху. Без сумнення, гэта быў самы магутны выбух, сведкам якога стаў чалавек. Я ўпэўнены, што ўвесь экіпаж перажыў тое, чаго ніхто дасюль не мог перажыць. Гэта было немагчыма ўсвядоміць. Колькі ж людзей мы забілі?»

«Калі б я пражыў сто гадоў, я ўсё роўна не змог бы забыцца на гэта, – прызнаецца пілот. – Усім у самалёце мову адняло, хоць мы ведалі, што мусіла адбыцца нешта вар'яцкае». Капітан Льюіс піша, што воблака па-ранейшаму заставалася бачным праз паўтары гадзіны палёту, на аддегласці ў чатырыста міляў.

Прадстаўнік аўкцыёну *Christie's* сказаў: «Гэтая пахвілінная канстатацыя адчуванняў – адзіны запіс, зроблены непасрэдна ў часе бамбавання Хірасімы, калі не лічыць навігацыйнай схемы, куды натаваліся лічбавыя дадзеныя палёту».

# Таямнічыя веды Агаты Крысці

*Увесь свет ведае, што геніяльная англійская пісьменніца Агата Крысці стварыла два незабыўныя персанажы – дэтэктыва Эркюля Пуаро і адораную вострым аналітычным розумам міс Марпл, напісала 80 дэтэктываў і 15 тэатральных твораў. Але мала хто ведае, што Агата Крысці выдатна зналася на прыгатаванні смяротных напояў.*





У найлепшых творах пісьменніцы прасочваюцца дзве цэнтральныя тэмы – Усход і забойства з выкарыстаннем атруты. Абедзве гэтыя тэмы бяруць пачатак у жыццяпісе самой пісьменніцы, якая была жонкай сэра Макса Мэлоуна, вядомага археолага, і суправаджала мужа ў шматлікіх навуковых экспедыцыях.

У часе Першай сусветнай вайны Агата Крысці працавала медыцынскай сястрой у ваенным шпіталі. Менавіта тады яна напісала сваю першую дэтэктыўную гісторыю, у якой ахвяра гінула ад атруты, а паліцэйскаму ў адстаўцы, бельгійцу па паходжанні, Пуаро ўдалося раскрыць гэтае таямнічае злачынства, першае ў яго легендарнай кар'еры.

Звярнуўшы ўвагу на дзіўны факт, што ў бальшыні твораў пісьменніцы ахвяры паміраюць ад атруты, два цікаўныя дактары з Берліну вырашылі правесці даследаванне, каб высветліць, які талент мела Агата Крысці ў навуцы змешвання розных інгрэдыентаў, прызначаных для гібелі яе літаратурных персанажаў.

Доктар Фолькмар Шнайдэр і доктар Бена Рысельман высветлілі, што сярод разнастайных ядаў, якія Агата Крысці скарыстоўвала ў сваіх творах для забойства, фігуруюць цыяністы калій, мыш'як, стрыхнін, саляная кіслата і нават талій, малавядомы цяжкі метал, выдзелены ўпершыню ў 1896 годзе і скарыстаны для аднаго з нашумелых забойстваў годам пазней. Пісьменніца ведала пра гэты выпадак і скарыстала талій у дэтэктыве «Віла «Белы конь», напісаным у 1961 годзе. Доктар, які аглядаў труп ахвяры, так і не зразумеў, што дасведчаны злачынца выкарыстаў гэты метал для здзяйснення забойства.

Веды Агаты Крысці адносна смяротных эфектаў талію нават уратавалі жыццё чалавеку ў рэальным жыцці. У 1977 годзе ў адзін з шпіталяў Лондану паступіла ў вельмі цяжкім стане дзяўчынка, захворванне выказвала сябе загадкавымі сімптомамі, і спецыялісты не маглі паставіць дыягназ. Але адна з медсёстраў, якая чытала «Вілу «Белы конь», насмелілася зайважаць дактарам, што яны бачаць тыповы выпадак атручвання таліем.

Берлінскія дактары, праводзячы сваё даследаванне, даведаліся таксама, што пісьменніца была добра знаёмая з атрутнымі ўласцівасцямі нікатыну, упершыню скарыстанага для забойства ў 1850 годзе. Фолькмар Шнайдэр і Бена Рысельман прыйшлі да высновы, што дэталі, апісаныя ў кнігах каралевы дэтэктыву, дазваляюць лічыць яе сапраўдным спецыялістам у гэтай галіне небяспечных ведаў.

Агата Крысці нарадзілася ў 1890 годзе ў Англіі. Першы раз уступіла ў шлюб у 24 гады ў часе сусветнай вайны, яе мужа звалі Арчы Крысці, і ён быў пілот. У гэтым шлюбе нарадзілася адзіная дачка Агаты Крысці, якую назвалі Разалія. У жыцці пісьменніцы ёсць цёмная драматычная старонка, аб якой яна ніколі не хацела ўзгадваць: гэта адбылося, калі памерла яе маці, а муж папрасіў разводу, каб з'ехаць разам з яе сакратаркай. Снежаньскай ноччу 1926 году, – на той момант пісьменніцы было 36 гадоў, – яе машыну знайшлі побач з дарогаю, але ніякага следу Агаты Крысці знайсці не ўдалося. Праз адзінаццаць дзён яна з'явілася ў адным з гатэляў на ўзбярэжжы, зарэгістраваная пад імем каханкі свайго мужа. Яна не ведала, хто яна, і апублікавала ў газеце ліст у спадзяванні, што хто-небудзь пазнае яе, але паколькі пісьмо было падпісанае чужым прозвішчам, ніхто са знаёмых Агаты Крысці на гэты зварот не адгукнуўся. Пазней родныя здолелі знайсці Агату, і ад перанесенага жыццёвага ўдару яна ачуняла толькі пасля працяглага лячэння ў псіхіятра. Каб здабыць новыя ўражанні, Агата Крысці на «Усходнім экспрэсе» паехала ў Багдад. У часе гэтага падарожжа яна пазнаёмілася з Максам Мэлоунам, археолагам, які быў на пятнаццаць гадоў маладзейшы за яе. Мэлоун закахаўся ў Агату, і яна пагадзілася стаць яго жонкай. Скanала пісьменніца ў 1976 годзе. Ёй было 85 гадоў. Макс Мэлоун перажыў сваю суджаную на два гады.

**La Verdad (Іспанія)**

## Міністрам не дазволяць курыць

Кампанія барацьбы са згубнай звычкай паліць цыгарэты пашырае межы. Радыкальны прыклад усім еўрапейскім краінам вырашыла падаць Харватыя. Першымі «ахвярамі» задараўлення стануць міністры, якіх абавяжуць развітацца з курэннем арганізавана. Пра гэта паведаміў міністр аховы здароўя краіны. У Харватыі будзе прыняты закон аб захаванні і ўмацаванні здароўя, скіраваны на вырашэнне праблемаў курэння, алкагалізму і наркаманіі, згодна з якім усе аматары курэння на пасадах міністраў, іхніх намеснікаў і рэферэнтаў будуць абавязаны адмовіцца ад прызвычаенасці да тытуню, а калі не хопіць волі, – прайсці неабходны курс лячэння. Улады не маюць права прымусіць да адмовы ад палення ўсіх грамадзянаў, таму пад першы ўдар змагання за здаровы лад жыцця патрапілі дзяржаўныя чыноўнікі, якія наўрад ці пажадаюць страціць пасаду з-за вернасці цыгарэтам.

Згодна з новым законам, кампанія супраць палення будзе праводзіцца таксама і ў шпіталях, дзе пацыентам, дактарам і медсёстрам прапануюць спецыяльныя курсы па адвыканні ад цыгарэтаў.

Гэты шырокі наступ на згубную звычку ўсім не выклікаў захаплення ў вытворцаў тытунёвага тавару. Яны змрочна папярэдзілі, што скарачэнне продажу цыгарэтаў адаб'ецца стратамі не толькі на іхніх прыбытках, але і на дзяржаўным бюджэце. Аднак міністр аховы здароўя Харватыі заявіў, што на кожны «тытунёвы» даляр прыбытку ў бюджэт прыпадае 4 даляры выдаткаў на лячэнне заўзятых курцоў і кампенсацыю страты іхняй працаздольнасці.

НАГОДА ЎСПОМНІЦЬ

### 29 сакавіка

**1830.** З-за абледзянення на цэлыя суткі спыніўся Ніягарскі вадаспад, які знаходзіцца ў Паўночнай Амерыцы на мяжы ЗША і Канады. Ягоная вышыня – 51 метр.



**1881.** Нарадзіўся амерыканскі архітэктар Рэйманд Худ, стваральнік першых амерыканскіх хмарачосаў.

**1886.** У Атланце аптэкар Джон Пембертан упершыню выпусціў напой «Кока-кола». За час існавання напою яго формула мянялася толькі аднойчы – у 1903 годзе, калі знізілі ўтрыманне экстракту лісця кокі.

### 30 сакавіка

**1282.** З-за французскага салдата, які на фэсце ў Палерма зняважыў мясцовую дзяўчыну, сіцылійцы выразалі ўначы 2 тысячы французаў, усчаўшы тым самым у Сіцыліі паўстанне. Гэтую бойню гісторыкі называюць Сіцылійскай усяночнай.

**1432.** Нарадзіўся военачальнік і турэцкі султан Мехмед II Фаціх. Менавіта ён, завяваўшы Канстанцінопаль, паклаў канец існаванню Візантыйскай імперыі. Горадператварыўся ў сталіцу Асманскай імперыі і стаў называцца Стамбул.

**1842.** У ЗША правялі першую аперацыю пад агульным наркозам (ад грэцкага *narkosis* – здранцвенне). Як анестэзійны сродак пры выдаленні пухліны на шыі быў выкарыстаны эфір.

**1867.** Падпісаная дамова аб продажы Расіяй Амерыцы Аляскі. Сума здзелкі склала 7,2 мільёна даляраў – па 2 цэнты за акр зямлі.

**1942.** У канцлагер Асвенцым прыбыла першая партыя французскіх габрэяў. Усяго падчас Другой сусветнай вайны ў гэтым канцлагеры на поўдні Польшчы фашысты знішчылі каля 4 мільёнаў чалавек.




### 31 сакавіка

**1727.** Памёр англійскі матэматык і фізік Ісаак Ньютан. Ён адкрыў законы механікі, сілу прыцягнення, апісаў спектральны склад белага колеру. Апрача таго, Ньютан быў прэзідэнтам Каралеўскага таварыства, то бок Акадэміі навук Англіі. Ідэя аб зямным прыцягненні прыйшла яму ў галаву ў гарадку Грантэм. Дарэчы, адтуль родам Маргарэт Тэтчэр.

**1732.** Нарадзіўся аўстрыйскі кампазітар Франц Йозеф Гайдн. Сярод іншага – аўтар музыкі гімну Нямеччыны.

**1889.** Афіцыйнае адкрыццё Эйфелевай вежы ў Парыжы. Яна была ўзведзена па праекце Густава Эйфеля ў французскай сталіцы да Сусветнай выставы таго ж году як сімвал дасягненняў тэхнікі XIX стагоддзя. Тады на яе можна было падняцца толькі па прыступках, цяпер ёсць ліфты. Вышыня Эйфелевай вежы – 317 метраў. Дарэчы, калі яе ўзводзілі, меркавалася, што гэта ўсяго на 20 гадоў.

### 1 красавіка

**1778.** Бізнесовец з Нью-Арлеану Олівер Полак прыдумаў знак даляра – $. Самыя першыя амерыканскія даляры былі выпушчаныя ў выглядзе срэбраных і залатых манет. Паводле амерыканскіх законаў, на далярах могуць выяўляцца партрэты вядомых асобаў, але толькі пасля іхняй смерці.

**1793.** З-за землятрусу пайшла пад ваду японская выспа Унсен разам з 53 тысячамі жыхароў.

**1977.** Чырвоныя кхмеры выдалі пастанову знішчыць усіх в'етнамцаў у Кампучыі.

**1998.** На аўкцыёне ў Лондане скрыпку Страдывары прадалі за 1 мільён 526 тысяч даляраў. Гэта сусветны рэкорд цаны музычнага інструменту.

### 2 красавіка

**47 да н.э.** У гэты дзень прагучала фраза, якая стала слаўтым афарызмам. Юлій Цэзар разбіў армію панцікскага цара Фарнака і пасля перамогі сказаў «Прыйшоў, убачыў, перамог».

**1805.** Нарадзіўся дацкі казачнік Ганс Хрысціян Андэрсен. У дзень яго народзінаў адзначаецца Міжнародны дзень дзіцячай кнігі.

**1872.** Памёр мастак і вынаходнік Самюэл Фінлі Брыз Морзэ, які ў 1837 годзе вынайшаў тэлеграфны апарат, а праз год – тэлеграфны код, так званую азбуку Морзэ.

**1912.** Карабель «Тытанік» выйшаў у мора, дзе правёў хадавыя выпрабаванні. Усё было ў парадку. Праз два тыдні, у ноч на 15 красавіка, гіганцкі лайнер, сутыкнуўшыся з айсбергам, патануў у Атлантычным акіяне каля мысу Ньюфаўндленд. Разам з караблём патанулі каля 1,5 тысячы пасажыраў.



### 3 красавіка

**1987.** У будынку штаб-кватэры Сусветнай арганізацыі аховы здароўя ўведзеная забарона на паленне. Летась было забаронена паліць і ў беларускіх медычных установах.

**1997.** Зафіксаваны сусветны рэкорд па колькасці татуіровак на целе аднаго чалавека. Рэкардсменам па наколках стаў амерыканец Берні Мелер з 14 006 татуіроўкамі.

### 4 красавіка

**1932.** Амерыканскі вучоны С.Кінг першым выдзеліў вітамін С.

**1932.** Нарадзіўся адзін з самых вядомых і культавых кінарэжысёраў свету Андрэй Таркоўскі. Ён зняў такія фільмы, як «Іванава дзяцінства», «Андрэй Рублёў», «Люстра», «Сталкер», «Ахвяраванне», «Настальгія» і інш.

**Падрыхтаваў Кірыла ГЛЁКАЎ**

Галоўны рэдактар **Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі.
Адрас: г.Мінск, вул. Рафіева, д.25, корп.1. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1139 Нумар падпісаны ў друк 28/03/2002 (15:00) Наклад – 8.160